Яноўская, В.В. Калі за нашу праўду Бог нас стаў караці: Кастусь Каліноўскі – артыкул У.М. Перцава як партрэт у рамках часу / В.В. Яноўская // Российские и славянские исследования: науч. сб. Вып. 8 / редкол.: А. П. Сальков, О. А. Яновский (отв. редакторы) [и др.]. - Минск: БГУ, 2013. - С. 135-144.

**В. В. Яноўская**

# «КАЛІ ЗА НАШУ ПРАЎДУ БОГ НАС СТАЎ КАРАЦІ...»: КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ — АРТЫКУЛ У. М. ПЕРЦАВА ЯК ПАРТРЭТ У РАМКАХ ЧАСУ

Прадстаўлены гістарычны партрэт Кастуся Каліноўскага, кіраўніка паўстанцкага руху на тэрыторыі Беларусі 1863—1864 гг., падрыхтаваны акадэмікам Уладзімірам Мікалаевічам Перцавым для кнігі «Выдатныя людзі беларускай зямлі (біябібліяграфічны слоўнік)». Рукапіс нарысу зацверджаны да друку сакратаром ЦК КП (б) Б Цімафеем Сазонавічам Гарбуновым, які разам з дырэктарам Інстытута гісторыі, акадэмікам АН БССР Мікалаем Міхайлавічам Нікольскім з'яўляўся рэдактарам усяго выдання слоўніка. Таму можна лічыць, што ацэнкі, якія прагучалі ў нарысе, у першыя пасляваенныя гады адлюстроўвалі афіцыйную пазіцыю ў адносінах да асобы і дзейнасці К. Каліноўскага.

The historical portrait of Kalinouski, the leader of the revolt 1863—1864 in Belarus, prepared by academician Vladimir Nikolayevich Pertsev for the book «Famous people of Belarusian land (Bio-bibliographical dictionary)» is presented. The manuscript of the essay was approved for publication by the secretary of the CC CP(b)B Timofij Sazonovich Gorbunov, who, along with the director of the Institute of History, academician AS BSSR Nikolai Mikhailovich Nikolsky was the editor of the dictionary. Therefore we can assume that the estimates expressed in the essay, in the first years after the war reflect the official position in relation to the person and the work of K. Kalinowski.

*Ключевые слова:* исторический портрет, историческая память, восстание 1863—1864 гг., революционно-демократическое движение, К. Калиновский, В. Перцев, Т. Горбунов.

*Keywords:* historical Portrait, historical memory, rebellion in 1863—1864, revolutionary-democratic movement, K. Kalinovskiy, V. Pertsev, T. Gorbunov.

> Хлебам чыстых палёў сваіх, што зямля зарадзіла,
> Кастуся Каліноўскага ты ўскарміла, радзіма. <...>
> Ні смерцямі, ні ранамі нас не зломіць утома,
> Покуль ступім на ганак мы ці на попел ад дому.
>
> *Максім Лужанін. Прысяга //* Полымя. 1944. № 2. С. 25

Амаль для кожнага даследчыка напісанне гістарычнага партрэта — справа пачэсная, але не заўсёды ўдзячная. Пачэсная, бо з шэрагу гістарычных постацяў аўтар (іншым часам самастойна, іншым — пад ціскам абставінаў) выбірае тых, хто на ягоную думку заслугоўвае гістарычнай памяці. Неўдзячная таму, што гістарычныя падзеі час ад часу падвяргаюцца пераасэнсаванню, у выніку чаго «пераацэньваюцца» і людзі, што да іх спрычыніліся.

**Яновская Валентина Васильевна** — заведующий отделом истории белорусской государственности Института истории НАН Беларуси, кандидат исторических наук, доцент. E-mail: janval@mail.ru

Вось ужо 150 год не сціхаюць, а нават і абвастраюцца спрэчкі пра аднаго з адметных дзеячоў беларускай гісторыі — Кастуся Каліноўскага. Сёння, у 150-ю гадавіну паўстання, на тэрыторыі Польшчы, Беларусі, Літвы і Украіны можна сустрэць поўны спектр ацэнак яго дзейнасці: ад прызнання ў якасці нацыянальнага героя Беларусі да абвінавачвання ў тэрарызме. Прычым гістарычны партрэт Кастуся Каліноўскага зменьваўся не толькі з прыходам у гістарычную навуку новага пакалення даследчыкаў, якія звычайна, каб заявіць аб сабе, з задавальненнем (а часам і з поспехам) «пераглядаюць гісторыю». Адносіны да Каліноўскага, ацэнка яго ролі ў гістарычным працэсе мянялі сваю афарбоўку і ў прадстаўленні аднаго і таго ж гісторыка. Што адбывалася, зразумела, пад ціскам ідэалагічных абставінаў.

У першыя пасляваенныя гады канцэптуальныя падыходы да выкладання дасавецкага перыяду гісторыі Беларусі («целевая установка» — згодна плану навукова-даследчых работ Аддзялення грамадскіх навук АН БССР) зняшчаліся ў неабходнасці падкрэсліць «самобытность белорусского народа и внутреннюю преемственность отдельных этапов развития его истории, независимо от того, в состав какого государства входили белорусские земли» [1, арк. 2]. Запатрабаванымі былі працы аб гераізме і самаадданасці асобных прадстаўнікоў беларускага народа. Таму Інстытут гісторыі запланаваў серыю работ «Замечательные люди Белоруссии» (пазней — «Выдающиеся деятели Белорусской земли. Био-библиографический словарь», «Выдающиеся деятели Белорусской земли. Био-библиографический словарь-справочник», «Материалы для словаря “Выдающиеся люди белорусского народа”»).


Академия наук БССР
Институт истории
2-й экз.
Выдающиеся люди
Белорусской земли
(Био-библиографический словарь)
Под редакцией
Т. С. Горбунова и Н. К. Никольского

Тытульны ліст рукапісу слоўніка

Невялікім па колькасці пазначаных імёнаў прадстае раздел пад назвай «Революционеры. Патриоты». У шэраг 15 асобаў уключаны і нарыс пра Кастуся Каліноўскага, напісаны акадэмікам Уладзімірам Мікалаевічам Перцавым.

Да гістарычнага партрэта Каліноўскага У. Перцаў звярнуўся ў 1944 г., калі ў часопісе «Беларусь» надрукаваў артыкул «Кастусь Каліноўскі (Да васьмідзесяціголдзя з дня смерці)». У артыкуле акадэмік пазначаў Каліноўскага «самым яскравым, самаадданым і самым таленавітым дзеячом беларускага паўстання ў часе польскай рэвалюцыі 1863 года». У дачыненні да палітычнай платформы Каліноўскага аўтар сцвярджаў, што той «адстойваў з незвычайнай энергіяй дзве асноўныя ідэі, якія і раней былі асноўным зместам яго рэвалюцыйнай дзейнасці: надзяленне сялян зямлёй шляхам падзелу памешчыцкіх уладанняў і **ўтварэнне незалежнай літоўска-беларускай рэспублікі** (вылучана аўтарам. — *В. Я.*)» [2, с. 24].

Праз год у 9-м і 10-м нумарах часопіса «Полымя» быў надрукаваны яшчэ адзін, даволі вялікі артыкул У. Перцава. У ім акадэмік-гісторык яшчэ больш дакладна вылучыў палітычную кампаненту: «У той час, як велізарная большасць дзеячоў польскай рэвалюцыі 1863 г. патрабавала аднаўлення Польшчы ў межах 1772 г., значыць уключэння ў яе склад Беларусі, Літвы і Украіны, Каліноўскі стаяў за стварэнне самастойнай Літоўска-Беларускай рэспублікі, незалежнай і ад панскай Польшчы, і ад самадзяржаўна-чыноўніцкай царскай Расіі» [3, с. 140].

У далейшым, імкнучыся надаць сваім поглядам сугучнасць з патрабаваннямі часу, У. Перцаў не засяроджваў увагу на адносінах К. Каліноўскага да нацыянальнага пытання і яго месцы ў гістарычным лёсе Беларусі. Але і з пункту гледжання класавых падыходаў гісторык лічыў, што «гістарычныя погляды Каліноўскага насілі прагрэсіўны характар і адпавядалі рэвалюцыйнаму характару яго дзейнасці як правадыра сялянскага рэвалюцыйна-дэмакратычнага руху ў Беларусі» [4, с. 19].

Але аб гэтым пазней. Што ж да 1940-х гг., то на пачатку 1947 г., падводзячы вынікі працы Інстытута гісторыі за першыя тры пасляваенныя гады, адным з важнейшых яго дасягненняў называлася падрыхтоўка бія-бібліяграфічнага даведніка «Выдатныя людзі Беларусі» памерам 20 аўтарскіх аркушаў. І аптымістычна сцвярджалася, што «у першым квартале 1947 г. увесь тэкст павінен быць падрыхтаваны да друку» [5, с. 107].

Насамрэч гэтая калектыўная праца так і не была надрукаваная. Зараз 2-х томны рукапіс пад назвай «Выдающиеся люди белорусской земли (Биобиблиографический словарь)» захоўваецца ў аддзеле рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі НАН Беларусі імя Я. Коласа. Некаторыя экземпляры апынуліся ў асабістым фондзе акадэміка М. М. Нікольскага архіва РАН і ў прыватных архівах. Зразумела, далёка не заўсёды можна пагадзіцца з ацэначнымі палажэннямі аўтараў нарысаў слоўніка. Што і зразумела: гістарычная навука не стаіць на месцы. Важна іншае — сярод прозвішчаў этнографаў, фалькларыстаў, краязнаўцаў, дзеячоў беларускай культуры і іншых асобаў ужо ў тыя гады агучаны звесткі пра тых, каго практычна занава раптам пачала «адкрываць» айчынная гістарыяграфія толькі ў канцы 1980-х — пачатку 1990-х гг.

Гістарычны партрэт Кастуся Каліноўскага, у аснову якога пакладзены надрукаваны ў 1944 г. артыкул У. Перцава, з невялікімі купюрамі[1] ў снежні 1946 г. быў рэкамендаваны да друку ў складзе часткі іншых артыкулаў. З улікам таго, што падобная рэкамендацыя адразу надавала тэксту палітычную легітымнасць, сэнс нарыса-партрэта можна разглядаць не толькі ў якасці навуковага крэда аднаго гісторыка, хаця і акадэміка, а афіцыйнай версіі беларускай гістарычнай навукі і партыйнага кіраўніцтва. Як-ніяк, а біябібліяграфічны слоўнік падрыхтаваны да друку пад рэдакцыяй сакратара ЦК КП(б)Б Цімафея Сазонавіча Гарбунова (менавіта ён 17 снежня 1946 г. і паставіў свой подпіс «К печати» у левым верхнім вуглу рукапісу

[1] Невялікім, але значным па сутнасці ўдакладненнем, што мела, на нашу думку, прынцыповы характар, было наступнае: у артыкуле 1944 г. У. Перцаў называе К. Каліноўскага «самым яскравым, самым адданым і самым таленавітым дзеячом беларускага паўстання ў час польскай рэвалюцыі 1863 года». У рукапісу ж падзеі 1863 г. страцілі нацыянальную афарбоўку і названы проста «восстанием 1863».

Перцава), галоўнага на той час беларускага ідыёлага. Другім рэдактарам слоўніка быў дырэктар Інстытута гісторыі, акадэмік АН БССР Мікалай Міхайлавіч Нікольскі.



10

Академик В. Перцев

КАСТУСЬ КАЛИНОВСКИЙ /1838--1864/ -- самый яркий, преданный и талантливый деятель восстания 1863 .Одинаково горячо боролся и против царской России, и против помещичьей Польши, и стремился придать революционному движению в Белоруссии самостоятельный республиканский и демократически-крестьянский характер, надеясь в результате революции образовать на родной белорусской земле свободные, проникнутые духом демократического равенства, порядки, при которых трудящимся массам жилось бы легко и радостно. Был врождённым революционером, который ни при каких обстоятельствах не хотел кривить душой, и через всю свою короткую,26-летнюю,жизнь пронёс знамя революции чистым и незапятнённым.

Фрагмент артыкула У. Перцава

Якраз гэтая версія гістарычнага партрэта Кастуся Каліноўскага і прапаноўваецца чытачу. Рукапіс друкуецца ўпершыню і яго падача максімальна набліжана да арыгінала.

У сугучнасці з пісьмовай версіяй «партрэта» нам падаецца натуральным суправадзіць яго версіяй мастацкай — эскізам постаці Кастуся Каліноўскага беларускага жывапісца Міхася Мацвеевіча Філіповіча (1896—1947). Гэты мастак адным з першых у савецкай Беларусі звярнуўся да нацыянальнай тэматыкі.



Эскіз мастака М. Філіповіча да карціны «Кастусь Каліноўскі» (1930-я гг.)

КАСТУСЬ КАЛИНОВСКИЙ (1838—1864) — самый яркий, преданный и талантливый деятель восстания 1863. Одинаково горячо боролся и против царской России, и против помещичьей Польши, и стремился придать революционному движению в Белоруссии самостоятельный республиканский и демократически-крестьянский характер, надеясь в результате революции образовать на родной белорусской земле свободные, проникнутые духом демократического равенства, порядки, при которых трудящимся массам жилось бы легко и радостно. Был врожденным революционером, который ни при каких обстоятельствах не хотел кривить душой, и через всю свою короткую, 26-летнюю, жизнь пронес знамя революции чистым и незапятненным.

Родился 21 января 1838 г. в фольварке Мостовляны (по другим сведениям — Якумовки) Гродненской губернии, в семье бедного шляхтича. После окончания прогимназии в местечке Свислочь поступил сначала в Московский Университет, но скоро оставил его в результате преследований царских ищеек. Переезжает в Петербург и поступает на юридический факультет. Здесь К. К. близко сошелся, с одной стороны, с русскими землевольческими кружками, с другой — с польскими революционными организациями. Это определило всю его деятельность и направило ее на борьбу, во-первых, за счастье «мужика», во-вторых, за политическую свободу.

Надел крестьян землей и установление свободного республиканского строя в стране стали целью его общественно-политической деятельности. Он весь отдается деятельности политических кружков, в которых принимала горячее участие передовая молодежь того времени. Одним из наиболее деятельных революционных кружков того времени была так называемая «Петербургская революционная организация», связанная с «центральным народным комитетом», который только что образовался в Варшаве и готовил восстание в Польше. В кружке принимали участие будущие польские и белорусские революционеры.

В скором времени в Вильно образовался как отдел варшавского Центрального народного комитета Литовский комитет, в который был послан в начале 1862 г. Петербургской революционной организацией Калиновский, к этому времени уже окончивший университет и получивший звание кандидат прав. В Литовском комитете, как и в Центральном комитете в Варшаве, шла горячая борьба между правой группой («белыми»), которая хотела добиться освобождения Польши, главным образом с помощью европейской дипломатии, и левыми (так называемыми «красными»), которые были склонны опереться на поддержку масс, но не хотели идти с ними до конца и последовательно проводить демократическую и революционную программу, настаивая на восстановлении границ 1772 г. и соглашаясь уплатить выкуп помещикам за землю, которая отойдет от них в пользу крестьян. Калиновский пошел дальше их, последовательно развив основные принципы революционно-демократической программы. Войдя в красную группу Литовского комитета, он не ограничился одним руководством революционным движением сверху, а сам пошел в народные массы. Сначала он едет в родное село Якумовку, но уже на второй день после появления в ней вынужден был удирать от полиции, посланной его арестовать. Некоторое время он был волостным писарем в местечке Свислочь /или возле него/, а потом, переодевшись в крестьянскую одежду, начал жить скитальческой жизнью, ходил по Гродненской губернии из села в село, прислушиваясь к тому, что говорят в народе, проводя политическую деятельность среди крестьян. Выпускает воззвания к крестьянам на белорусском, «мужицком», языке, в которых высказывает мысль, что у белорусских крестьян — два врага: польские помещики и русское самодержавие. В беседах с крестьянами он говорил: «Восстание должно быть чисто мужицким; шляхта, поскольку она за мужиком не пойдет, должна погибнуть». Таким образом, в восстании, которое готовилось, он хотел перенести центр тяжести на участие в нем народных масс, пропагандируя идею вооруженного восстания. При этом он видел в крестьянских и городских массах не только пассивную толпу, обязанную подчиняться руководству центральной революционной власти. Он настаивал на введении в руководящие организации крестьянских представителей и видел в этом одно из главных средств для налаживания сильных связей с массами.

Вернувшись в конце 1862 г. в Вильно, Кастусь Калиновский начал агитировать за свой план поднятия народной революции среди членов Виленского комитета и склонил на свою сторону большую часть их. Фактически он подчинил себе Виленский комитет, стал его головой и душой и придал ему «красный», это значит революционно-демократический, характер.

Когда в начале 1863 г. началось польское восстание, перед комитетом встали большие трудности. У него не было согласия с варшавским Центральным комитетом и с возникшей немного позднее (с 10—22 мая 1863 г.) временной революционной властью Польши (так называемый Жонд Народовы).

Власть эта действовала несмело и с большими колебаниями. Она боялась втягивать к участию в революции широкие народные массы, не хотела удовлетворять требований крестьян в аграрном вопросе и во многих отношениях шла на поводу у «белых». Народно-демократическое направление деятельности «красного» Виленского комитета, которым руководил Калиновский, показалось в Варшаве подозрительным и опасным. В Вильно был направлен варшавский агент Дюларан, который сообщил в Варшаву, что Литовский комитет настроен по-сепаратному, ведет агитацию за национальную независимость Литвы и Белоруссии и имеет в виду поднять крестьянскую революцию.

Однако действовать открыто против Калиновского в Варшаве находили опасным. Он имел большую популярность среди масс, и вступать с ним в конфликт означало забрать у революции самые существенные и реальные средства борьбы с царскими войсками. Поэтому в Варшаве решили, не порывая решительно с Калиновским, поставить его деятельность под контроль. Во все белорусские волости были посланы агенты варшавской повстанческой власти, которые под видом сбора денег на дело восстания пристально и с неприязнью следили за деятельностью Калиновского. Просто они не мешали красным поднимать восстания, надеясь, что красные в борьбе с царским правительством потратят свои силы, после чего результаты их борьбы можно будет использовать.

Под влиянием деятельности Калиновского крестьянское движение широко развернулось в Литве и Белоруссии. Оно приобрело характер настоящей аграрной революции. Энгельс в письме к Марксу от 8 апреля 1863 г. писал: «Литовское движение (под Литвой тогда понимали все владения бывшего Великого княжества Литовского (здесь рукой Горбунова зачеркнуто «это значит». — *В. Я.*), в том числе и Белоруссию) теперь самое важное, потому, что оно, во-первых, выходит за границы конгрессной Польши и, во-вторых, в нем принимают большое участие крестьяне». У крестьян в разных местах Литвы нашлись талантливые и смелые руководители — ксендз Мацкевич, офицер русского генерального штаба Сигизмунд Сераковский, будущий участник Парижской коммуны Врублевский, в Минской области — Траугут, но душой и головой белорусских крестьян был теперь, как и ранее, Калиновский. В скором времени сложилась ситуация, при которой его огромные организационные и революционные способности могли проявиться и развиться в полной мере.

Белых все больше пугал народный характер движения, которое происходило в Литве и в Белоруссии. Приобретя перевес в Варшаве, они решили распустить красный Литовский комитет. В случае неподчинения они угрожали опубликовать имена членов Литовского комитета в зарубежной прессе как изменников революции. Калиновский протестовал, хотя, под воздействием угрозы белых, сделал вид, что подчиняется. На деле он не только не подчинился, но как раз в это время развил самую кипучую, бурную деятельность.

Белые, которые попробовали было взять движение в свои руки, фактически развалили его. Массы к ним не шли, шляхта тоже уклонялась от открытой помощи восставшим, боясь, чтобы движение не повернулось против нее самой. Надежды на помощь из-за границы не оправдались.

В то же время Муравьев-вешатель развивал энергичную демагогическую деятельность, обещая крестьянам расширение площади землепользования и снижение выкупной платы. В крестьянскую среду был пущен слух, что восстание было выдумано помещиками для того, чтобы отобрать у крестьян облегчения Манифеста 19 февраля 1861 (здесь в оригинале смысл двух предложений не разделен точкой и нет заглавной буквы в слове «Под». — *В. Я.*). Под влиянием этих условий среди восставших возникли крупные колебания и сомнения в окончательном успехе восстания. Чтобы их победить, необходима была твердая и решительная власть. В Белоруссии эту власть и взял в свои руки Калиновский. Главной задачей этого критического момента, который переживало тогда восстание, было налаживание связей с широкими народными массами, и для разрешения этой задачи не было лучшей кандидатуры, чем Калиновский. Он образовал для Белоруссии повстанческое красное правительство /«Чырвоны Жонд»/, и во главе этого правительства с фактическими правами стоял он сам. Он надеялся сделать то, чего не могло сделать Центральное польское правительство, а именно: организовать широкое народное движение. Вторая половина 1863 г. была периодом самой бурной деятельности. Калиновский находился всё время в движении, издавал приказы и воззвания, издавал в Вильно газету «Мужицкая правда» (вышло всего 9 номеров), организовывал повстанческие отряды. Тем не менее один за другим выбывали из строя его друзья и соучастники: одни удирали за границу, другие гибли жертвами муравьевских палачей. Только один Калиновский оставался верным своему революционному долгу, отстаивая с необыкновенной энергией две основные идеи, которые раньше были основным содержанием его революционной деятельности: наделение крестьян землей путем раздела помещи-

чьих владений и образование независимой литовско-белорусской республики. Он жил в Вильно, откуда шли широкие пути, которые связывали его с революционной Белоруссией и Литвой, ему приходилось по несколько раз в день переодеваться и все время менять паспорта и квартиры.

«Этот один человек, — говорит о нем один польский историк, — имел значение сотен, ибо он умел работать, жертвовать собой и прятаться. Его звали “хамом”, и он сам себя так называл и гордился этим прозвищем, едко выступая против шляхты»...

Сам Муравьев вынужден был признать его организаторский талант. В «Отчете по руководству Северо-Западным краем» он писал: «Восстание было страшно не количеством вооруженных отрядов, но силой и таинственностью революционной организации, которая покрыла своей сетью весь край». В Белоруссии во главе этой организации стоял Калиновский, и уже это дает ему право на признание его одним из самых талантливых руководителей революционного движения.

В то время, когда Калиновского искали везде, он жил в Вильно, не прячась ходил по его улицам и обедал в открытых ресторанах. Между прочим, его искали и в Минске. Туда был направлен жандармский полковник Лосев, который арестовал близкого к Калиновскому шляхтича Парфиановича, и тот, из-за трусости, выдал Калиновского. Он сообщил на допросе, что Калиновский прячется в помещениях, которые принадлежат костелу св. Яна в Вильно, под именем Витольда Витаженца (фамилия напечатана как «Витахненца» и исправлена Горбуновым. — *В. Я.*).

Ночью 7—19 января 1864 г. Калиновский был арестован и отвезен в Доминиканскую тюрьму. В тюрьме написал он письмо, адресованное «Белорусскому народу». Он писал: «Нет, братцы, большего счастья на этом свете, чем когда человек имеет ум и знания. Тогда только он может дать себе совет и жить в достатках... ибо обогатив наукой разум, он разовьет сердце и народ свой целый искренне полюбит...».

7—19 апреля 1864 г. по приговору суда он был повешен. Когда чиновник, который читал приговор, объявил его звание и имя: «Дворянин Константин Калиновский», он остановил его словами: «У нас нет дворян — все равны». По рассказам свидетелей, на эшафот он взошел смело, высоко подняв голову.

Так закончил свою жизнь славный деятель белорусского революционного движения, вся недолгая жизнь которого была самопожертвованием, бесстрашным служением своему народу.

В. Перцев [2]

Версія гістарычнага партрэта адпавядала свайму часу. Іншая справа, калі выкарыстаць метафару-таўталогію, што гэты час у хуткім часе скончыўся. І аўтар партрэта, акадэмік У. Перцаў, мусіў пераглядзець свае погляды і прыстасоўвацца да новых абставінаў. Што яскрава праявілася ўжо ў час распрацоўкі «Тэзісаў аб асноўных пытаннях гісторыі БССР». У гэтай справе разам з іншымі вядомымі гісторыкамі прымаў удзел і ён. Паўстанне 1863 г. на тэрыторыі Беларусі вызначана як сялянскае, яно «супала па часу з паўстаннем у Польшчы, якое насіла нацыянальна-вызваленчы характар і мела сваіх паслядоўнікаў на Беларусі сярод польскай шляхты». Характарызуючы погляды Кастуся Каліноўскага, складальнікі тэзісаў дыпламатычна адзначылі, што ён «не меў яшчэ ясных, чотка сфармуляваных палітычных ідэалаў». А галоўным зместам ягонай дзейнасці была барацьба супроць прыгонніцтва. Прычына няўдачы паўстання бачылася ў тым, што К. Каліноўскі «не змог спалучыць класавую барацьбу сялянства, накіраваную супроць памешчыкаў і самадзяржаўя, з правільным вырашэннем нацыянальнага пытання» [6, с. 53].

У 1954 г. выйшаў першы том двухтомнай «Истории Белорусской ССР». Глава XIII «Восстание 1863 г. в Белоруссии» напісана У. Перцавым «при участии кандидата исторических наук Д. А. Дудкова». Сугучна з тэзісамі, К. Каліноўскі разглядаўся ў якасці «сялянскага правадыра». Разам з тым тут яго палітычныя погляды цяжка ўспрыняць без «чотка сфармуляваных палітычных ідэалаў». Хутчэй у гэтым тэксце ён выглядае такім хітрым палітыкам, які

[2] Перед фамилией автора рукой Горбунова зачеркнуто слово «Академик». — *В. Я.*

разумее карысць аб'яднання намаганняў з польскім вызваленчым рухам, адначасова сваю дзейнасць лічыць складаючай «агульнарускага вызваленчага» руху. У аўтарскай канцэпцыі гэта пададзена наступным чынам: «Он боролся за то, чтобы восстание в Белоруссии приняло крестьянско-демократический характер и не пошло по пути удовлетворения националистических стремлений шляхты, но в то же время не отказывался от использования шляхетских повстанцев в борьбе против царизма. Калиновский рассматривал свою деятельность по организации восстания в Белоруссии как часть общерусского освободительного движения и надеялся, что восстание 1863 г. в Белоруссии и Литве сольётся с крестьянским движением в России. В то же время он понимал освободительное значение польского восстания 1863 г., заявляя, что «польское дело — это наше дело, это вольности дело» [7, с. 290].

Апошнім штрыхом У. Перцава да партрэта К. Каліноўскага стаў артыкул «Кастусь Каліноўскі (Да 90-годдзя з дня пакарання смерцю)». У ім акадэмік аднёс імя Каліноўскага да ліку слаўных імёнаў, якімі заслужана ганарыцца беларускі народ. Ідэалагічныя патрабаванні часу вымушалі адзначыць: «Каліноўскі жыў і дзейнічаў як сялянскі рэвалюцыянер, які засвоіў перадавыя ідэі рускіх рэвалюцыйных дэмакратаў. Пазней беларускія буржуазныя нацыяналісты імкнуліся вытлумачыць барацьбу Каліноўскага супраць царскага ўрада як барацьбу супраць рускага народа і зрабіць з яго прыхільніка адрыву Беларусі ад Расіі» [8].

Ужо пасля смерці У. Перцава адбылося другое выданне «Истории Белорусской ССР». Раздзел, прысвечаны паўстанню 1863 г., падрыхтаваны У. Перцавым і С. Байковай (больш вядомая як С. М. Самбук), не ўтрымлівае асобнага параграфа пра К. Каліноўскага, што прывяло да практычнай адсутнасці характарыстыкі яго поглядаў. Адзначана толькі: «В разрешении национального вопроса Калиновский был последователем Герцена». І яшчэ: «В Мужицкой правде» нашли свое отражение и некоторые ошибочные взгляды Калиновского на историю развития общества. На страницах газеты он идеализировал прошлое Польши, брал под защиту униатскую церковь» [9, с. 354, 357].

Думаецца, немагчыма даць адназначны адказ, калі, на якім этапе сваёй працы над гістарычным партрэтам Кастуся Каліноўскага друкаваныя або рукапісныя словы гісторыка У. Перцава адлюстроўвалі яго навуковыя погляды. Пытанне аб тым, як прайсці паміж жорсткімі ідэалагічнымі рамкамі і навуковай аб'ектыўнасцю, стаяла не толькі перад ім, перад усёй гістарычнай навукай. І не заўсёды яно вырашалася на карысць навукі і творчых планаў гісторыкаў. Гістарычны партрэт Кастуся Каліноўскага яшчэ толькі малюецца...

## БІБЛІЯГРАФІЧНЫЯ СПАСЫЛКІ


1. Цэнтральны навуковы архіў НАН Беларусі. Ф. 1. Воп. 1. Спр. 91.
2. *Перцаў В.* Кастусь Каліноўскі (Да васьмідзесяцігоддзя з дня смерці) // Беларусь. 1944. № 2.
3. *Перцаў В.* Кастусь Каліноўскі // Полымя. 1945. № 9.
4. *Перцаў В. Н.* Гістарычная думка ў Беларусі ў XIX — пачатку XX ст. // Весці Акадэміі навук БССР. Серыя грамадскіх навук. 1957. № 2.
5. Работа Інстытута гісторыі АН БССР з канца 1943 г. да 1 студзеня 1947 г. // Весці Акадэміі навук Беларускай ССР. Серыя гістарычная. Вып. 1. 1947.
6. Тэзісы аб асноўных пытаннях гісторыі БССР. Ч. І. Гісторыя беларускага народа да Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі // Большэвік Беларусі. 1948. № 8.
7. История Белорусской ССР. Т. 1. Минск : Изд-во Академии наук Белорусской ССР, 1954.
8. *Перцаў В.* Кастусь Каліноўскі (Да 90-годдзя з дня пакарання смерцю) // Літаратура і мастацтва. 1954. 20 сакавіка.
9. История Белорусской ССР. Т. 1. Минск : Изд-во Академии наук Белорусской ССР, 1961.


Статья поступила в редакцию 22 сентября 2012 г.